

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"

München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 23 (102) Нядзеля 8 чэрвеня 1952 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 6

# Камуністычныя бунты у Францыі

Найважнейшай палітычнай падзеяй двух мінулых тыдняў былі крывавыя заварушэньні ў Францыі, выкліканыя камуністымі, якія ацэньваюцца, як генэральная проба сілаў паміж камуністычнай партыяй і ўрадам Пінэ. Непасрэднай прычынай бунтаў быў прыезд 27 травеня ў Парыж былага галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Задзіночаных Нацыяў у Карэі генэрала Мат'ю Рыджвэя, які цяпер, пасьля ўступленьня генэрала Айзэнгаўэра, абняў становішча галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту.

Ужо ў пятніцу 25 травеня дайшло ў Парыжы да вялікай камуністычнай дэманстрацыі, пасьля чаго цэнтральны ворган францускай камуністычнай партыі «Юманітэ» памясьціў артыкул галоўнага рэдактара гэтае газэты Стыля, у якім былі выразныя заклікі да маніфэстацыяў з нагоды прыезду ген. Рыджвэя. У той-жа дзень быў арыштаваны галоўны рэдактар «Юманітэ» Стыль, што выклікала вялікае ўражаньне, бо гэта быў першы такі выпадак, ад заканчэньня вайны. Газэта «Фігаро» цьвердзіць, што артыкул Стыля быў яўным прызывам да бунту й замаскаваным заклікам да палітычных забойстваў. Публічная апінія не зьяўляецца аднак зьдзіўленай гэтым выпадкам, бо ўжо ад даўжэйшага часу бальшыня францускае прэсы дамагалася ад ураду прыняць меры дзеля спыненьня безадказнай камуністычнай прапаганды.

Парыж, Марсэль, Ніца, Ліён, Бордо й іншыя францускія гарады былі 28 травеня сьведкамі крывавых сутычак між паліцыяй і тысячамі дэманстрантаў, што, ідучы за заклікам камуністычнай партыі, ня гледзячы на ўрадавую забарону, зарганізавалі дэманстрацыю пратэсту супраць прыбыцьця новага галоўнакамандуючага атлянтычнымі збройнымі сіламі. Прэзыдыя парыскай паліцыі заявіла, што гэтыя сутычкі былі найцяжэйшымі за апошніх 25 год. У вадным толькі Парыжы быў наступны білянс гэтых сутычак: адзін забіты дэманстрант, 27 цяжка раненых паліцыянтаў, 17 цяжка раненых дэманстрантаў і 718 арыштаваных камуністых, між якімі 156 знаходзіцца пад абвінавачаньнем, што яны дзеілі супраць бясьпечнасьці Францыі. Агулам колькасьць раненых паліцыянтаў выносіць каля 200 чалавек.

Сярод арыштаваных знаходзіцца таксама Жак Дуклё, які ад часу прабываньня Морыса Торэза ў Савецкім Саюзе «на курацыі» зьяўляецца ўрадуючым генэральным сакратаром францускай камуністычнай партыі. У ягоным аўце падчас дэманстрацыі быў знойдзены заладаваны пісталет, радыявысыльная станцыя й два паштовыя галубы. Міністар нутраных справаў Шарль Брунэ заявіў, што арышт адбыўся ня гледзячы на парлямантарную недатыкальнасьць Дуклё, бо ён быў злоўлены на месцы злачыну.

Цэнтральны ворган камуністычнай партыі «Юманітэ» 29 травеня выступіў з заклікам да ўсіх працоўных заняць пазыцыю ў справе арышту генэральнага сакратара. Газэта піша: «Трэба, каб краіну заліла хваля рэвалюцыяў, дэманстрацыяў і страйкаў. Пагадзіцца з арыштам Жака Дуклё — гэта значыць ізноў стацца ахвярамі вайны й фашызму». Камуністычная прэса Францыі ў многіх артыкулах называе генэрала Рыджвэя «чумным генэралам» і «катам карэйскага народу».

Францускі ўрад абвінаваціў 30 травеня камуністычную партыю ў змове супраць бясьпечнасьці дзяржавы. Міністар нутраных справаў Францыі Брунэ заявіў цераз усе францускія радыястанцыі, што ўрад, як і заўсёды перад гэтым, завядзе спакой і парадак у краіне. Ён зьяўляецца так добра ўзроены супраць далейшых камуністычных дэманстрацыяў і спробаў нападаў, як і супраць страйкаў, да якіх заклікае камуністычны прафэсыянальны саюз.

Камуністычны прафэсыянальны саюз «CGT» заклікаў тры мільёны сваіх сяброў прыступіць да пратэстацыйнага страйку супраць арышту генэральнага сакратара камуністычнай партыі Дуклё й галоўнага рэдактара «Юманітэ» Стыля. Дуклё абвінавачаны ў змове супраць нутранай бясьпечнасьці краю й будзе судзіцца паводля 87 і 89 артыкулаў, якія прадугледжваюць кару ад аднаго году да дажыцьцёвага ўвязьненьня.

Правадыр італьянсіх камуністых Пальміро Тольяці пераслаў францускім камуністым тэлеграму, у якой гаворыць, што італьянскія камуністыя зьяўляюцца глыбака абуранымі арыштам Дуклё. Тольяці запэўняе аб салідарнасьці італьянскіх камуністых «у змаганьні за незалежнасьць Францыі».

Заклік камуністычнага прафэсыянальнага саюзу да страйкаў выклікаў у Парыжы вельмі нязначнае рэха. Таксама й на правінцыі былі заўважаныя толькі чыста лякальныя выпадкі спыненьня працы. Толькі ў вугальным басэйне паўночнай Францыі 31 травеня страйкавала каля 8% вуглякопаў.

На падставе распараджэньня сьледчага судзьдзі паліцыя правяла масавыя вобыскі ў памяшчэньнях камуністычнае партыі й зьліжаных да яе арганізацыяў. Пры вобысках, апрача вялікае колькасьці тайных дакумэнтаў, былі знойдзеныя й сканфіскаваныя тайныя друкарні, аружжа й амуніцыя.

У суботу 31 травеня ўзброеная матарызаваная паліцыя заняла камуністычныя памяшчэньні аднарачасна ў Тулёне, Бордо, Ліёне, Марсэлі й Ля Рошэль. У Парыжы некалькі сот паліцыянтаў акружылі шасьціпавярховы дом камуністычнай партыі Францыі. Камуністыя ў час былі аб гэтым папярэджаныя й яшчэ перад прыбыцьцём паліцыі, забарыкадаваўшыся ўнутры дому, пачалі паліць кампрамітуючыя іх дакумэнты й прапагандовы матарыял. Калі паліцыі ўдалося ўламацца ў сярэдзіну, усе печы былі перапоўненыя пылаючымі ў полымі тайнымі дакумэнтамі. Усе паперы, якіх камуністыя спаліць не пасьпелі, былі сканфіскаваныя.

Паўдзённафранцускі порт Тулён быў 30 травеня вечарам тэатрам цяжкіх зударaў паліцыі з камуністычнымі дэманстрантамі. Два паліцыянты й многія дэманстранты былі раненыя, а 46 камуністых арыштавана. Другі падобны выпадак меў месца ў Тарбэс, дзе 250 камуністых заатакавала паліцыю. Чатырох паліцыянтаў было раненых і чатыры ўзброеныя дэманстранты былі арыштаваныя.

Францускае міністэрства нутраных справаў паведаміла 31 травеня, што акцыя ўжо закончылася й што паліцыі ўдалося сканфіскаваць мноства розных актаў і дакумэнтаў, агнястрэльнага аружжа, амуніцыі, хвальшывых пячатак розных вайсковых уладаў і друкарскіх уладжаньняў дзеля прыгатаўленьня хвальшывых пашпартоў.

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Перадача Гагоўнакамандаваньня збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту.** Генэрал Айзэнгаўэр 30 травеня перадаў становішча галоўнакамандуючага збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту генэралу Рыджвэю. Пры гэтай нагодзе ген. Айзэнгаўэр зазначыў, што ня гледзячы на паляпшэньне бясьпечнасьці ў сувязі із ростам збройных сілаў Атлянтычнага Пакту, мусяць быць пераможаныя яшчэ некаторыя мамэнты, што стаяць на перашкодзе адпаведнай абароназдольнасьці Захаду, пайменна: 1. непаразумленьні паміж паасобнымі народамі, 2. магчымасьці прыпадковых і непрадбачаных выпадкаў уздоўж зялезнай заслоны, 3. небясьпека разгляданьня справы абароны з чыста лякальнага гледзішча, 4. «самаздаваленьне, якое напаўняе нас у меру таго, як растуць нашыя сілы».

**Гарантыі вялікіх дзяржаваў Захаду.** Пасьля падпісаньня дагавору аб стварэньні эўрапэйскай арміі міністры замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі зрабілі ў Парыжы новае абвешчаньне гарантыі для заходняга Бэрліна, нямецкай саюзнай рэспублікі й Заходняй Эўропы. Гэтае абвешчаньне гарантыі гаворыць, што ЗША, Вялікабрытанія й Францыя кажны напад на адну з успомненых тэрыторыяў будуць разглядаць як загрозу іхнай собскай бясьпечнасьці й забавязваюцца ў інтарэсах міру і надалей трымаць свае збройныя сілы ў заходнім Бэрліне й у саюзнай нямецкай рэспубліцы.

**Ратыфікацыя дагавораў да 20 ліпеня.** Канцлер заходнянямецкай рэспублікі др. Адэнаўэр заявіў, што генэральны дагавор з заходнімі дзяржавамі, як і дагавор аб стварэньні эўрапэйскай арміі будзе ратыфікаваны нямецкім парлямантам да 20 ліпеня перад парлямантарнымі фэрыямі.

**Магчымасьць новай агрэсыі.** Дзяржаўны дэпартамант ЗША падаў да ведама, што ён зьвярнуўся нядаўна да ўрадаў 16 дзяржаваў, якія бяруць удзел у Карэйскай вайне, зь перасьцярогай аб магчымасьці новай камуністычнай агрэсыі на Далёкім Усходзе. Апрача гэтага, ён паясьніў, што міністар замежных справаў ЗША Эчысон зусім памылкова запярэчваў існаваньне гэтай загрозы. Пра магчымасьць новай камуністычнай агрэсыі на Далёкім Усходзе гаварыў таксама ген. Рыджвэй у прамове перад амэрыканскім кангрэсам.

**Кітайцы выціскаюць ангельцаў.** Міністар замежных справаў Вялікабрытаніі Ідэн нядаўна заявіў у ніжняй палаце, што збудаваная на працягу 150 год тарговуля зь Кітаем ліквідуецца зусім. Апошнія ангельскія прадпрыемствы, што дзеілі пасьля апанаваньня Кітаю камуністымі, закрываюцца. Перад апошняй сусьветнай вайной ангельская калёнія ў Кітаі налічвала 26 000 асоб. Сяньня яна зьменшылася да 700 асоб і будзе яшчэ зьменшаная да 18 чалавек, што працуюць у ангельскай амбасадзе ў Пэкіне й консулятах у Шанхаі й Тыен-Тсін.

**Немцы байкатуюць генэральны дагавор.** Ня гледзячы на распараджэньне міністра нутраных справаў др. Легра, краіны саюзнай нямецкай рэспублікі ня вывесілі з нагоды падпісаньня генэральнага дагавору з заходнімі дзяржавамі сьцягоў на публічных будынках. Таксама й другое распараджэньне аб школьным сьвяце з мэтаю паінфармаваньня моладзі аб важнасьці гэтага факту, нямецкія краіны адкінулі, матывуючы, што зьмест дагавору ня быў яшчэ ведамы ў дзень вызначанага сьвята. Сацыялістычнае агенцтва цьвердзіць, што дзень падпісаньня дагавору зьяўляецца «чорным днём Рэспублікі», бо паглыбілася пропасьць паміж заходняй і ўсходняй Нямеччынай і справа задзіночаньня Нямеччыны сталася нязвычайна цяжкай.

**Дыктатарскія законы ў Усходняй Нямеччыне.** Парлямант Усходняй Нямеччыны прыняў аднагалосна два законы, якія зьмяняюць канстытуцыю. На моцы гэтых законаў улада ўраду канцэнтруецца ў руках «сьціслага кабінэту», а пракуратура будзе падпарадкаваная непасрэдна радзе міністраў. Таксама аднагалосна быў прыняты закон аб судох для непаўналетніх, на моцы якога супраць моладзі будзе прымяняцца звычайны каральны кадэкс.

**Вынікі камунальных выбараў у Італіі.** 25 травеня адбылася другая рунда камунальных выбараў у сярэдняй і паўдзённай, а таксама ў некаторых мясцовасьцях паўночнай Італіі, якія распачаліся яшчэ ў мінулым годзе. У выніку выбараў здабылі вялікую колькасьць галасоў нэафашыстыя й манархістыя, якія йшлі да выбараў супольным блёкам. Гэты пасьпех быў дасягнуты за кошт хрысьціянскіх дэмакратаў. Камуністыя й сацыялістыя Нэні здабылі нязначную бальшыню галасоў у прыраўнаньні да выбараў папярэдніх. Лібэралы, сацыялдэмакраты й рэспубліканцы страцілі нязначную колькасьць галасоў.

**Самасуды ў лягеры ваеннапалонных на востраве Кое.** На востраве Кое ў Карэі ў лягеры ваеннапалонных паўночных карэянцаў адбываюцца камуністычныя самасуды, у выніку чаго былі прыгавораныя на кару сьмерці й прыгаворы выкананыя на 115 асобах.

**Японія выганяе савецкіх прадстаўнікоў.** Японскі ўрад паведаміў 30 травеня савецкага прадстаўніка кантрольнай альянцкай рады ў Японіі, што ягонае бюро перастала ўжо існаваць з мамэнтам ратыфікацыі 28 красавіка сёлета мірнага дагавору зь Японіяй.

**Камуністычны загавор у Паўдзённай Карэі.** Афіцыяльны камунікат паўдзённа-карэйскага ўраду паведамляе, што апошнімі днямі выкрыты вялікі камуністычны загавор супраць паўдзённа-карэйскага ўраду. У сувязі з гэтым арыштавана 9 сяброў паўдзённа-карэйскага парляманту, а далейшых 10 маюць быць арыштаванымі.

**Передвыбарнае змаганьне Тэфт-Айзэнгаўэр.** Усё прамаўляе за тым, што прыхільнікі Айзэнгаўэра й Тэфта прыедуць у Чыкаго на партыйную канвэнцыю дзеля выстаўленьня кандыдата на прэзыдэнта ад рэспубліканскай партыі з роўнымі сіламі. Канчальны вынік будзе тады залежыць ад становішча групы ў некалькі дзесяткаў дэлегатаў із штату Пэнсыльвэнія й Мічыган, дзе яшчэ не адбыліся перадвыбары. 28 травеня Айзэнгаўэр дасягнуў новай перамогі, атрымліваючы ўсіх 22 дэлагатаў із штату Канэктыкут. Паводля найнавейшых аблічэньняў Тэфт мае за сабой 399 дэлегатаў, а Айзэнгаўэр — 381.

**Новае выпрабаваньне атамнай бомбы.** 25 травеня ў Ляс Вэгас у ЗША адбылося наступнае выпрабаваньне атамнай бомбы. Гэта ўжо быў шосты з чаргі выбух атамнай бомбы ў ЗША ў гэтым годзе.

**Масква перасьцярагае Іран.** Маскоўскае радыё 22 травеня падало да ведама, што Савецкі Саюз выслаў ноту-перасьцярогу Пэрсыі, у якой Масква пратэстуе супраць прыняцьця Іранам амэрыканскай вайсковай помачы, якая аддае іранскую армію пад кантролю ЗША. Масква закідае, што іранскі ўрад, уваходзячы ў супрацоўніцтва з ЗША, дапамагае Амэрыцы ў яе агрэсыўных плянах супраць СССР.

**Лётніцкія страты ў Карэі.** Ваенна-лётніцкія сілы ЗН ад пачатку вайны страцілі ў Карэі 1 416 самалётаў, тады, калі камуністыя страцілі за гэты час толькі каля 400 самалётаў. Такая вялікая розьніца ў стратах тлумачыцца тым, што камуністыя не пасылаюць сваіх самалётаў у засяг дзеяньня зэнітнай артылерыі ЗН, тады, калі самалёты ЗН у вялікай меры становяцца ахвярамі зэнітнай артылерыі камуністых.

**Уцёкі народных паліцыянтаў.** Ня гледзячы на суровыя захады з боку камандаваньня народнай паліцыі, між 1 і 22 травеня сёлета ў заходні Бэрлін із савецкай зоны ўцякло звыш 40 народных паліцыянтаў. Ад пачатку году ў заходні сэктар Бэрліна ўцякло 298 народных паліцыянтаў.

**Прадукцыя самалётаў у СССР.** Шэф амэрыканскага лётніцтва генэрал Натан Туінінг асьветчыў у сэнаце, што саветы ўжо сяньня маюць удвая болей самалётаў, чымсьці ЗША. Апрача гэтага саветы робяць намаганьні ў кірунку зраўнаньня свайго лётніцтва з амэрыканскім у галіне ягонае якасьці. Рост савецкага лётніцтва, на думку генэрала, прадстаўляе найвялікшую загрозу для Захаду.

**Мікрафон пад крэслам амбасадара.** Апублікаваныя цяпер тайныя дакумэнты амэрыканскага міністэрства замежных справаў адкрываюць мэтады, якіх ужывалі бальшавікі ў 1937 г. з мэтаю выкраданьня дыпляматычных тайніцаў. Гэтак амэрыканскія дыпляматы ў Маскве выкрылі ў травені 1937 г. мікрафон, заінсталяваны ў габінэце амэрыканскага амбасадара ў Маскве Джозэпа Дэвіса. Мікрафон знаходзіўся каля крэсла, у якім сядзеў звычайна амбасадар, дыктуючы тайныя справаздачы для Вашынгтону.

## *Пад знакам нацыянальнага ўздыму*

Кажны, хто ўважней сочыць за нашым эміграцыйным жыцьцём, мог заўважыць, што бадай што ўва ўсіх нашых эміграцыйных асяродзьдзях зазначыўся на працягу апошніх месяцаў значны нацыянальны ўздым і актывізацыя дзейнасьці ў розных галінах нашага нацыянальнага жыцьця. Калі мы яшчэ паўгода таму назад у многіх артыкулах наракалі на бязьдзейнасьць нашае эміграцыі й ейную абыякавасьць у дачыненьні да першарадных нашых нацыянальных праблемаў, дык сяньня з прыемнасьцю можам сьцьвердзіць, што гэтыя артыкулы, правільныя й патрэбныя ў той час, сяньня ўжо зьяўляюцца ў вялікай меры неактуальнымі. Калі мы з войстрай крытыкай выступілі тады ў дачыненьні да нашае эміграцыі ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі, дык сяньня можам адзначыць, што і ў Амэрыцы ў вапошнім часе нашае нацыянальнае жыцьцё асягнула значны размах.

Там ня толькі ў Нью-Ёрку, дзе сканцэнтравалася аснаўное ядро нашае эміграцыі, закіпела беларуская нацыянальная праца, але й стварыліся за гэты час іншыя паважныя беларускія цэнтры, як у Кліўлендзе, Дэтройце й Чыкаго, якія ў меру сваіх сьціплых магчымасьцяў робяць, што могуць, у кірунку гуртаваньня нашае эміграцыі й папулярызацыі беларускага імені перад вольным дэмакратычным сьветам. Прэзыдэнт БНР сп. інж. М. Абрамчык, які нядаўна даўжэйшы час правёў у ЗША і адведаў па некалькі разоў усе важнейшыя беларускія асяродзьдзі, сьцьвердзіў з асаблівым націскам, што новая беларуская эміграцыя ў Амэрыцы, ня гледзячы на вялізарныя цяжкасьці ў пачатковым пэрыядзе ейнага арганізацыйнага гуртаваньня, у вагульным добра сябе зарэпрэзэнтавала й заваявала сымпатыі й прызнаньне з боку амэрыканскага грамадзянства.

Калі ходзіць пра іншыя заакіянскія краіны, дык за апошні час наступіла даволі значнае аздараўленьне ўзаемадачыненьняў і значнае зактывізаваньне дзейнасьці сярод нашай эміграцыі ў Канадзе, дзе такія асяродзьдзі, як Торонто й Вініпэг, праводзяць сыстэматычную працу ў галіне нашае вонкавае прапаганды. Ня гледзячы на вялікую расьцярушанасьць нашых суродзічаў у Аўстраліі й малы працэнт сярод іх інтэлігенцыі, і там на працягу апошніх месяцаў робяцца сыстэматычныя натугі з мэтаю ажыўленьня беларускае нацыянальнае актыўнасьці. Нашыя суродзічы ў Сыднэі, Мэльбурне, Брысбэйне й іншых пунктах Аўстраліі ўвесь час даюць знаць, што й яны ня спыняюць сваіх намаганьняў, каб заманіфэставаць пры кажнай нагодзе свой патрыятызм, каб выказаць сваю актыўнасьць на грамадзкім груньце, каб і самым спрычыніцца, як мага больш, да разгарненьня нашай нацыянальнай актыўнасьці.

Асабліва важным і пацяшаючым ёсьць зьявішча, што ў некаторых нашых асяродзьдзях, прыкладам у Кліўлендзе й Дэтройце ў ЗША, мы бачым пры працы ня толькі нашую інтэлігенцыю, што ўжо мае за сабою вялікі стаж і дасьветчаньне ў грамадзкім і палітычным руху, але й звычайных беларускіх сялян, якія толькі ў лягерах ДП у Нямеччыне ўцягнуліся ў актыўнае жыцьцё, а некаторыя зь іх толькі ў Нямеччыне нацыянальна ўсьведаміліся. Гэта сымптомы нязвычайнае важнасьці, якія вымоўна сьветчаць, што наш нацыянальна-вызвольны рух на чужыне зьяўляецца арганічнай патрэбай найшырэйшых слаёў нашага грамадзянства, мае моцныя натуральныя асновы для далейшага прагрэсаваньня.

Наглядаецца значнае ажыўленьне нацыянальнай працы і ў Эўропе, дзе, як і дагэтуль у першых радох знаходзяцца нашыя студэнты ў Лювэне. Адумыславае наведаньне нашае студэнцкае групы кардыналам Тысэранам, шчырае зацікаўленьне й прызнаньне ў дачыненьні да яе найвышэйшых дзяржаўных дзейнікаў Бэльгіі й бэльгійскага грамадзянства, што асабліва мела месца ў дзень нашага нацыянальнага сьвята 25 сакавіка, было, сьмела можна сказаць,

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Прэзыдэнт БНР у Нямеччыне

У суботу 31 травеня сёлета адведаў Нямеччыну Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікалай Абрамчык. На чыгуначнай станцыі ў Мюнхэне спаткалі сп. Прэзыдэнта ўсе радныя нямецкага сэктару Рады БНР, старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Нямеччыне Ўладзімір Бортнік, галоўны рэдактар «Бацькаўшчыны» Язэп Каранеўскі, старшыня Цэнтралі Беларускіх Акадэміцкіх Арганізацыяў на Чужыне др.



**Прывітаньне сп. Прэзыдэнта на чыгунарнай станцыі ў Мюнхэне.**

Барыс Рагуля, старшыня мясцовага Беларускага Камітэту ў Шляйсгайме Іван Колас і іншыя беларускія жыхары Мюнхэну й Шляйсгайму.

У гэты-ж самы дзень сп. Прэзыдэнт правёў даўжэйшую нараду зь нямецкім сэктарам Рады БНР, як і з паасобнымі беларускімі дзеячамі ў Нямеччыне. Сп. Прэзыдэнт шырака паінфармаваў аб сяньняшнім стане беларускай нацыянальна-вызвольнай справы ў вабліччы цяперашняй міжнароднай сытуацыі, як і паведаміў аб сваіх няўпынных захадах перад палітычнымі дзейнікамі заходня-дэмакратычнага сьвету. Гэтыя захады ў многіх выпадках ужо ўкаранаваліся бліскучымі дасягненьнямі. Заходнія палітычныя дзейнікі — паінфармаваў сп. Прэзыдэнт — зь вялікай увагай сочаць за беларускім палітычным жыцьцём на чужыне й выказваюць што раз болей сымпатыі й зразуменьня для нашай нацыянальна-вызвольнай справы.

На другі дзень свайго побыту ў Нямеччыне сп. Прэзыдэнт быў гасьцём беларускай групы лягеру для безьдзяржаўных чужынцаў у Шляйсгайме. Спадара Прэзыдэнта спаткала вялікая група беларусаў і прадстаўнікі ад украінскіх жыхароў лягеру. Сп. Прэзыдэнта прывітаў старшыня мясцовага Беларускага Камітэту Іван Колас, старшыня мясцовага ўкраінскага камітэту сп. Максімовіч, вялікі наш прыяцель украінскі сьвятар а. Граноўскі паднёс традыцыйны хлеб з сольлю, а малая дзяўчынка Зоя Харытончык паднесла дастойнаму Гасьцю букет прыгожых кветак.

Пасьля гэтага, у перапоўненай украінскай залі, у якой забралася каля 250 чалавек, а між імі звыш 150 беларусаў, бо некаторыя нашыя суродзічы прыехалі на ўрачыстасьць спатканьня зь іншых мясцовасьцяў, сп. Прэзыдэнт зрабіў зьмястоўны даклад аб беларускай вызвольнай праблеме на фоне сяньняшніх міжнародных падзеяў і паінфармаваў прысутных аб жыцьці й дзейнасьці нашай новай эміграцыі ў ЗША, якую сп. Прэзыдэнт нядаўна адведаў.

Аб сваей палітычнай дзейнасьці й ейных выніках сп. Прэзыдэнт зазначыў: **«За апошніх 6 год я пяць год знаходзіўся ў дарозе. Маей мэтай было дасягнуць усе палітычныя цэнтры Захаду, каб пераканаць іх у правільнасьці нашае справы й узбудзіць у іх да яе сымпатыю, спачуцьцё й патрэбнае падтрыманьне... Нашая праблема сталася ўжо міжнароднай, а ня толькі нацыянальнай. Нашыя палітычныя імкненьні ўжо знаходзяць належную ацэну на Захадзе. Я ўпэўнены, што ў новым сусьветным канфлікце мы ўжо ня будзем толькі пасыўнымі аб'ектамі, але актыўнымі суб'ектамі.»**

Напасьледак адбыўся ўмела зарганізаваны мясцовымі беларусамі супольны абед, на якім было прысутных звыш сотні беларусаў. За шклянкай віна й пры слуханьні шматлікіх прамоваў быў прыемна праведзены час, пасьля чаго сп. Прэзыдэнт у таварыстве некалькіх беларусаў вярнуўся назад у Мюнхэн.

Трэйці й апошні дзень свайго побыту ў Мюнхэне сп. Прэзыдэнт прысьвяціў поўнасьцю прыняцьцю прадстаўнікоў нацыянальных рэпрэзэнтацыяў іншых паняволеных народаў, на якіх, між іншым, былі абгавораныя справы супольнага палітычнага супрацоўніцтва.

**Ст.**

# Інтэрвью Прэзыдэнта БНР

Прэзыдэнт БНР сп. інж. Мікалай Абрамчык, будучы некалькі дзён у Нямеччыне, даў прадстаўніку нашае газэты інтэрвью наступнага зьместу:

**1. Пытаньне: Як Вы ацэньваеце, спадар Прэзыдэнт, сяньняшнюю міжнародную палітычную сытуацыю?**

**Адказ:** Я думаю, што ў гэтай галіне нічога новага сказаць не змагу, бо ўжо было столькі на гэтую тэму сказана адказнымі палітыкамі заходня-дэмакратычнага сьвету й зроблена столькі афіцыяльных і публічных заяваў аб няўхільнасьці збройнага канфлікту, што мог-бы сказаць толькі тое самае й выказаць свае ўражаньні, што заходня-дэмакратычны сьвет вядзе практычную падрыхтоўку й мабілізацыю ўсіх сваіх матарыяльных і маральных рэсурсаў да гэтага канфлікту. Калі можа выбухнуць збройны канфлікт з бальшавізмам, думаю, гэтага ніхто ня можа прадбачыць. Адно ясна, што такі стан міжнароднага напружаньня доўга трываць ня можа. Мог-бы дадаць, што думка аб няўхільнасьці новай сусьветнай вайны пануе ня толькі сярод палітычных колаў Захаду, але яна глыбока пранікла й у грамадзтва ўсіх дэмакратычных народаў, як прыкладам у ЗША, дзе ў гэтым кірунку за апошнія два гады адбылася вялікая эвалюцыя.

**2. Пытаньне: Як Вы ацэньваеце нашую беларускую палітычную сытуацыю ў ваблічча новых падзеяў?**

**Адказ:** Бязумоўна, нам беларусам жудасна думаць аб новай сусьветнай вайне, ведаючы добра, што ў такіх катаклізмах заўсёды прыходзілася нашаму народу несьці вялізарныя ахвяры. Зразумелая рэч, што маральная адказнасьць за выкліканьне новай вайны ляжа не на нас, беларусаў, бо мы, як ведама, ня можам уплываць на такі або іншы кірунак падзеяў, як пэўне-ж не панясе ніякай адказнасьці за гэта й увесь цывілізаваны культурны сьвет, які бальшавікі змусяць сваей агрэсыўнай палітыкай, выплываючай з прыроды існаваньня крэмлёўскага імпэрыялізму, да вайны. На вялікі жаль, мы пастаўленыя былі ў такія абставіны ад першага дня падбою Беларусі й ліквідацыі Беларускай Народнай Рэспублікі, што мусілі заўсёды ўзалежніваць нашае вызваленьне ад падобнай вонкавай сытуацыі, якая злажылася сяньня. Я ўважаю, што ў такіх абставінах нашая справа, як і справа ўсіх паняволеных народаў, ня можа быць разьвязаная інакш, як мы яе й прадстаўлялі на працягу ўсіх 32-ух гадоў. Я перакана્ны, што збройны канфлікт, які вынікне з бальшавізмам, скончыцца поўнай перамогай заходня-дэмакратычнага сьвету. Кардынальным для нас заўсёды было пытаньне, як гэты заходня-дэмакратычны сьвет, галоўна Амэрыка, расцэньвае нашую праблему й як яна да яе аднясецца. Мушу з прыемнасьцю сьцьвердзіць, што праца нашай палітычнай эміграцыі за доўгія часы яе прабываньня на Захадзе, пачынаючы ад прэзыдэнта П. Крэчэўскага й прэзыдэнта В. Захаркі да сяньняшніх дзён, не пайшла на марна.

**3. Пытаньне: У чым Вы бачыце канкрэтна гэтыя дасягненьні?**

**Адказ:** Па першае ў тым, што ўсе намаганьні й заклікі Крэчэўскага-Захаркі ад 1922 году да Лігі Нацыяў і вялікіх дзяржаваў не асталіся бяз рэха. Калі ў той час гэтыя дзяржавы былі глухімі на нашыя справядлівыя патрабаваньні, дык сяньня галоўныя пункты нашае аргумэнтацыі можна пачуць з вуснаў палітыкаў і дзяржаўных мужоў Захаду ў іхных выступленьнях і афіцыяльных заявах. Гэта зьяўляецца найлепшым доказам правільнасьці нашае палітычнае прагнозы адносна бальшавіцкай небясьпекі для цэлага сьвету а з другога боку доказам нашага непахіснага на працягу дзесяткаў гадоў змаганьня з бальшавізмам. Усё гэта дае нам вялікія падставы быць уключанымі ў вагульны фронт змаганьня з бальшавізмам.

З другога боку нашая новая эміграцыя, стоячы на тых самых бээнэраўскіх прынцыпах, як прадаўжальнік нашай вызвольнай справы на чужыне, таксама выказала вялікую вытрываласьць, станоўкасьць і такт, чым бязумоўна не магла не заімпанаваць заходня-дэмакратычнаму сьвету. Ёсьць дзеля гэтага рад дадзеных, што беларуская вызвольная справа бяз нашага ўдзелу вырашацца ня будзе.

**4. Пытаньне: Вы былі даўжэйшы час у Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Цікавым было-б даведацца, як палітычная грамадзкая апінія Амэрыкі заглядаецца на будучую перабудову падбальшавіцкага Ўсходу?**

**Адказ:** Мне ўзапраўды як пад час майго першага адзінаццацімесячнага (канец 1949 і пачатак 1950 году), гэтак і другога пяцімесячнага (канец 1951 і пачатак 1952 году) побыту ў ЗША давялося мець досыць шырокія кантакты з амэрыканскай грамадзкасьцю. Таксама магу зь вялікай прыемнасьцю сьцьвердзіць, што амэрыканская грамадзкая апінія ў бальшыні сваей поўнасьцю сымпатызуе нашым нацыянальна-вызвольным імкненьням. Мне ўдалося за гэты час навязаць досыць шырокае знаёмства з палітычнымі, навуковымі й журналістычнымі дзейнікамі Амэрыкі. Усюды й заўсёды ад іх чуліся ня толькі словы сымпатыі й спачуваньня, але й шчырыя жаданьні прыйсьці нам чым-небудзь з дапамогай. Я абсалютна ўпэўнены, што пасьля ўпадку бальшавізму мы з боку ЗША ніколі не спаткаем перашкодаў, супярэчных з воляю й імкненьнямі беларускага народу. Амэрыканцы — гэта прыродныя дэмакраты й яны ніколі ня будуць супрацьставіцца нашым незалежніцкім імкненьням. Праўда, падчас майго першага побыту ў Амэрыцы ў некаторых асобаў часамі спатыкаліся сумлівы, ці ў беларускім народзе ўзапраўды існуюць моцныя нацыянальна-вызвольныя незалежніцкія імкненьні. Падчас другога майго побыту ў ЗША я спасьцярог, што такіх сумліваў ужо засталося вельмі мала. Зразумелая рэч, што прычынілася да гэтаг глыбейшае зацікаўленьне амэрыканскага грамадзянства нашай нацыянальнай справай у сувязі з эвалюцыяй думкі аб няўхільнасьці збройнага канфлікту з бальшавізмам, а таксама й арганізацыйная і палітычна-грамадзкая дзейнасьць нашай эміграцыі. У аспэкце эвэнтуальных падзеяў усё аднак будзе залежыць ад нас, як цэласьці беларускага народу, гэтак і ад ягонага палітычнага кіраўніцтва.

На маю думку, мы ня маем таму ніякіх падставаў да пэсымізму, а наадварот — у нязломнай веры ў перамогу нашае вызвольнае ідэі мы павінны зынтэнсыфікаваць як мага больш нашую дзейнасьць у тым самым напрамку, у якім вялі дагэтуль, як па лініі арганізацыйнай, мабілізацыі ўсіх нашых матарыяльных і духовых рэсурсаў, так і ў кірунку інфармаваньня палітычных і грамадзкіх колаў заходня-дэмакратычнага сьвету.

**5. Пытаньне: А як Вы, аб'яжджаючы беларускія эміграцыйныя асяродзьдзі, заўважылі, ці гэты энтузыязм у нашай эміграцыі ёсьць, ці адчуваецца сярод яе зморанасьць? Пры гэтым карысна было-б паінфармаваць чытачоў «Бацькаўшчыны», як ацэньваюць беларускую эміграцыю амэрыканцы?**

**Адказ:** Я ня маю ўражаньня, каб сярод беларускай эміграцыі вычувалася

(Заканчэньне на 3 балоне)



**Прывітаньне сп. Прэзыдэнта ў лягеры ў Шляйсгайме. Адна з наймалодшых жыхарак лягеру Зоя Харытончык падае сп. Прэзыдэнту букет кветак.**



**Старшыня Беларускага Камітэту ў Шляйсгайме сп. І. Колас вітае сп. Прэзыдэнта.**

ЯКУБ КОЛАС (20)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

### XXIV

### ВЯЛІКДЗЕНЬ

У хаце вучням не сядзіцца —
Прайшла ахвота ў іх вучыцца;
І сам дарэктар уздыхае,
На Мікалаўшчыну ківае,
У смутку нейкім часта ходзіць,
Аб доме гутарку заводзіць,
Пускае жарты міма вуха,
Яго ня цешыць саладуха,
Якая хлопцу падабалась,
Бо вельмі добра ўдавалась.
— Сказаць, ня кепска тут хлапчыне, —
Прамовіць часам гаспадыня, —
А ўсё-ж дамок свой моцна цягне,
І кажны к матцы сваёй прагне.
Прышлося ўважыць тут малому
І адвязьці яго дадому.
А вучні кніжкі пахавалі
І ўжо Вялікадня чакалі.
Прышла вялікая субота,
Даўно прыпынена работа,
І ўжо пад вечар сама хата
Была прылучана да сьвята:
Лагоднасьць, згода і павага
І вельмі сталая развага,
Ўвесь гэты дзень тут панавалі
І блізкасьць сьвята шанавалі!
Старыя, дзеці і падросткі,
І шу-шу тут не падымалі,
Як буднім днём з-за кажнай косткі.
Алесь, Кастусь і Міхаліна,
Сама найшла на іх часіна,
На працу зранку вышлі самі
І падмялі двор дзяркачамі;
Пясочку потым накапалі
І сьцежкі ім панасыпалі;
І гэты дворык так зьмяніўся,
Так гожа траўкай заіскрыўся,
Што проста глянуць было люба, —
Хоць ты вядзі яго да шлюба.
Мужчыны загадзя пабрылісь,
Вадою цёплаю памылісь,
Бо трэба-ж ім было сабрацца
Паехаць ў цэркву спавядацца.
Хоць і казаў Антось, бывала,
Што тут, у лесе, грахоў мала;
Калі-ж часамі грэх налучыць,
Аб ім забудзеш, ён ня мучыць
І не пашкодзіць ў справах неба,
Але папу аддаць іх трэба.
І вось, пад вечар трохі важка
Загрукацела каламажка,
На сьвет выходзячы з усьмешкай,
Зіму згуляўшы пад застрэшкай.
Антось агледзіў тут прылады,
Калёсам добра даў „памады",
Густога дзёгцю і варволю,
Каб меней крыўдзілісь на долю;
А напамадзіўшы калёсы,
Паправіў вітыя атосы
І падлажыў у задок сена.
Вясёлы час — павозак зьмена!
Агледзеў дзядзька ўсю аздобу,
Тады зрабіў павозцы спробу.
Калёсы лёгка закруцілісь,
Зь вясёлым гукам пакацілісь,
Пайшлі ў хаду раўнютка, гладка,
Як з маслам першая аладка.
Тымчасам ў хаце ўсё гатова,
Цяпер за бацькам толькі слова,
Бо ён у лесе прыпазьніўся
І вось цяпер яшчэ пыніўся.
А хлопцы зраньня рыхтавалісь,
Па добрай згодзе зьмеркавалісь,
І самі зладзілі, вядома,
Хто едзе зь іх, хто будзе дома.
— То будзем ехаць — я гатовы...
Ну, аставайцеся здаровы! —
Міхал дамашнім пакланіўся,
І шапку зьняў, перахрысьціўся.
Яму ў вадказ дабра жадаюць,
Грахі ўсе чыста адпускаюць.
Над ціхай талаю зямлёю
Навісла ночка той парою.
Было спакойна і лагодна,
Як-бы сама прырода тая
Паважнасьць сьвята адчувае,
Зь людзьмі жыве супольна, згодна.
Маўчаць хваіны, ані зыку,
Ня шэпне гэты бор-музыка,
Стаіць маўчком і развражае,
Відаць, Вялікадня чакае.
„Цяпер і страхі пазьнікалі!"
На вуха Косьтусю шапталі
Якіясь думкі-весялушкі:
„Зьвяры Вялікдзень чуюць, птушкі
І хвоі гэтыя, і елі,
Ліхія людзі падабрэлі,
Бо сьвятам Божым ўсюды вее;
З нажом разбойнік не пасьмее
Залегчы ў лесе срэдзь дарогі,
Бо і заможны і убогі
Сьвяты Вялікаднік сьвяткуюць
І радасьць ў сэрцы сваім чуюць".
І гэту згоднасьць, радасьць сьвята
Ўва ўсім Кастусік адчувае:
І ў тым, як зь дзядзькам размаўляе
На возе седзячы зь ім тата,
Чуваць яна ў пытаньні брата,
І ў гэтым лесе безгалосным,
І ў мерным клыгату калёсным;
Вось так і чуеш, што й дарога
Цяпер паслушна волі Бога,
І пераказваюць навіны
Калёсам гучна каляіны.
Дарога зь лесу вышла ў поле,
Калёсы коцяцца паволі,
Шуршыць пясочак многазначна.
Ў сяле на цэркві чуць абачна
Блішчыць ліхтарык і мігае,
Дарожных погляд прыцягае.
Яны лагчынку праязджаюць,
Гару сярэднюю мінаюць,
Клады з панікшымі крыжамі,
Дзе дрэвы голькамі-брыжамі
Навісьлі ціха над зямлёю,
І едуць мернаю ступою.
Вось хаты з мроку выплываюць,
Агнямі вокны ў хатах зьзяюць,
І на пясочку блескі-плямы
Прыгожа пішуцца скрозь рамы.
Яшчэ па звычаю старому
Мужчыны сталыя удому
Свае літаньні адпраўлялі,
Пакуты Езуса сьпявалі.
Так і цяпер у Ратуёвых,
Ў Яхіма дзядзькі, ў Базылёвых
Таксама ў Стасечкі і ў Даткі
Свае захоўвалі парадкі:
Сядзелі згодна і набожна
І сьпеў сьвяты вялі заложна,
Вачэй ня зводзячы з кантычкі.
Часамі тут былі і стычкі,
Калі сьпеў новы зачыналі
Ды ў тон агульны не траплялі.
— Ня так, Андрэй, ты пачынаеш!
— Не, гэта ты, Сальвэсь, зьбіваеш!
— Ня так, мужчыны, вось як трэба! —
Пры гэтым чуўся бас Язэпа,
Другія голас далучалі,
І гуртам зноў яны сьпявалі

# Сялянскае землякарыстаньне на Беларусі

(Прадаўжэньне)

## II. ЗМАГАНЬНЕ СЯЛЯН ЗА ЗЯМЛЮ ПАСЬЛЯ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ — АРГАНІЗАЦЫЯ САЎГАСАЎ І ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

Беларускае сялянства нездаволенае было палітычнымі й эканамічнымі парадкамі ў расейскай дзяржаве. Вёска спадзявалася, што рэвалюцыя павінна ўнесьці нейкія зьмены ў ейнае незайздроснае жыцьцё. Асаблівую надзею на рэвалюцыю ўскладала бяднейшая частка вёскі й бяспраўныя парабкі маёнткаў. Адны спадзяваліся на зямельныя прырэзкі к сваім вузенькім ніўкам, а ў другіх уваскрэсьлі надзеі на атрыманьне зямельнай собскасьці, якую мела даць ім бяз выкупу рэвалюцыя.

Вось-жа з такімі настроямі спаткала вёска лютаўскую рэвалюцыю 1917 году, а разам зь ёю й беларускае сялянства, што было апранута на розных франтох у салдацкую шынэль. Таму й ня дзіўна, што з рэвалюцыяй у вёсках, воласьцях, паветах узьнікалі розныя зямельныя камісіі й камітэты. Агульнае абядненьне вёскі штурхала сялян шукаць выхаду. Такім выхадам была зямля. Трэба было яе знайсьці й засеіць за ўсякую цану. Думалася, што хто пасее, то той і пажне. Так гаварыла народная мудрасьць.

Аднак на Беларусі не заўсёды жалі тыя, што сеялі. Войны й акупацыі пасьля рэвалюцыі прынесьлі вёсцы яшчэ большыя спусташэньні, боль і смутак людзям. Адныя агітавалі за захоп зямель, адначасна накладаючы сваю цяжкую лапу на абшарніцкія маёнткі й утвараючы там савецкія гаспадаркі. Прыходзілі другія й жорстка каралі, а то й проста бяз суду зьнішчалі нарушальнікаў недатыкальнасьці зямельнай собскасьці.

З прыходам савецкай улады замест маёнтку паўставаў саўгас. Перамяніўся толькі шыльд, а ў саўгасах працавалі тыя-ж бяспраўныя парабкі. Адносіны да акаляючага сялянства ні ў чым таксама не зьмяніліся: як і пры абшарніку саўгас за высокую часьць для сябе здаваў малазямельным сенажаці, за карыстаньне пашаю зь вёскі сьцягвалася плата грашыма або адработкам. За невялікія патравы саўгаснай собскасьці накладаўся штраф. Савецкія суды таго часу за дробныя ўчынкі каралі сялян прымусовай працай у тых-жа самых саўгасах.

Усвоіўшы добра няхітрую дыялектыку прапаганды, што ўсё належыць да народу, у тым ліку й савецкая гаспадарка, сялянству зусім не падабалася й вядзеньне гаспадаркі ў саўгасе. Прыкладам, для сялян зусім незразумелым было, чаму на Случчыне на багатых урадлівых глебах, замест патрэбнай людзям пшаніцы, уся зямля ў саўгасах засявалася кармоваю травою «ежа». Як насеньне гэтай «ежы», так і самая трава вывозілася за межы Беларусі. Кіраўнікамі саўгасаў назначаліся ў бальшыні самадуры або людзі, якія ніколі ня бачылі, адкуль бярэцца хлеб. Так у вадзін з буйнейшых саўгасаў Беларусі, што знаходзіўся ў Узьдзенскім раёне, назначаны быў новы кіраўнік. Прыймаючы запасы збожжа ў саўгасным сьвірне, ён вельмі зьдзіўлена запытаў свайго папярэдніка: «Нашто саўгасу патрэбна трымаць у сьвірне цэлых два засекі перцу?» Гэты небарака-кіраўнік вялізарнай савецкай гаспадаркі насеньне вікі палічыў за перац. А між іншым ён быў добрым спэцыялістым у іншай галіне працы. Людзі бачылі ўсё гэта, бачылі, што дабрабыт перанаселенай, малазямельнай і абяднелай вёскі зусім не палепшыўся за кошт вялізарных уладаньняў былых маёнткаў.

Землі дробных хвальваркаў былі перададзеныя ў часовае карыстаньне парабком і безьзямельным сялянам. Але-ж не ўва ўсіх мясцовасьцях былі гэтыя фонды. У пошуках зямлі бедната пачала расчыстку й раскарчоўку лясных плошчаў. Гэта было вельмі пашырана ў лясных частках нашага краю. У лесе аблюбоўвалі зручныя мясьціны, асабліва былі да гэтага прыдатнымі зарасьлі арэшніку, грабу, клёну. Зарасьлі з дрэвамі нішчылі сякераю й агнём, матыкаю й граблямі з большага падрыхтоўвалася зямля й засявалася падзвычайна ўрадлівым на такіх навінах просам.

Невялікая плошча такой пасекі забясьпечвала сям'ю смачнаю пшоннаю кашаю. Пасевы проса рабілі падлесную зямлю пухкай і прыгоднай да пасеву восеньню жыта, якое таксама давала ладныя ўраджаі. Лапінкі ворнай зямлі ў лясох павялічваліся, гаспадары ўрэшце кідалі няўтульныя вёскі зь нявыгоднымі сялібамі й украдкам перавозілі свае хаты з маемасьцю на новую зямлю, якая шчодра аплачвала хлебам іхную цяжкую працу. Такіх высяленцаў у вёсцы жартам называлі «дызэртырамі». Улады прабавалі весьці змаганьне з гэтым самавольствам, але ў тыя часы ня мелі пасьпеху. У многіх мясцох прыходзілася лічыцца з фактам існаваньня гэтых пасяленцаў і пры земляўпарадкаваньні гэтым бедаком былі выразаныя пасёлкі й хутары (прыкладам в. Языль, Случчына).

Пад уплывам прапаганды й у пошуках лепшага жыцьця ў першыя гады ўлады саветаў бесшабатныя гультаі на чале зь ідэалістым-шукальнікам раю й справядлівасьці на зямлі арганізоўвалі ў былых маёнтках камуны. Шырокага распаўсюджаньня камуны ня мелі. Вынікі жыцьця й іх разьвіцьця былі канфузныя. Калі ў камунах запасы харчоў праелі, а маемасьць маёнткаў расьцягнулі, «камунары» паміж сабою пасварыліся, камуна развалілася й яе сябры разышліся, хто куды.

У другой палавіне 1923 году, з разваротам новай эканамічнай палітыкі, як вынік сялянскіх паўстаньняў і незадаваленьня савецкай харчовай разьвёрсткай, паўстала пытаньне аб прывядзеньні ў нейкую сыстэму землякарыстаньня на вёсцы. Насьпела неабходнасьць правядзеньня земляўпарадкаваньня. Немагчыма было па два разы на год дзяліць і перадзельваць зямлю, што была перададзена з запасных фондаў. На Беларусі ня прывыклі к перадзелам зямлі, як гэта было ў Расеі пры абшчынным карыстаньні зямлёю. Нарэшце трэба было новым гаспадаром адвесьці сялібы, каб даць ім магчымасьць прыступіць да будаўніцтва.

Народны Камісарыят Земляробства на Беларусі ўзначальваў у той час энэргічны й талковы Дзьмітра Прышчэпаў. Будучы беларускім нацыяналістым, селянін па паходжаньню, былы пастаўнік, ён вельмі добра ведаў, чаго хоча вёска. У мінулым Прышчэпаў належыў да партыі сацыялістых рэвалюцыянэраў, меў здаровы практычны розум. Хадзілі чуткі, што Прышчэпаў пасьля захопу бальшавікамі ўлады прыймаў удзел у паўстаньні супраць саветаў. Яго судзіў вайсковы трыбунал і тады галаву яго ўратаваў на нейкі час адзін зь сяброў трыбуналу. Будучы ўжо Народным Камісарам Земляробства, Прышчэпаву ўдалося пабыць у Даніі й Нямеччыне. Ён пабачыў там высокую ўзроўню сельскай гаспадаркі, заможнае й незалежнае жыцьцё данскага фармэра й нямецкага баўэра.

Пад уражаньнем высокае ўзроўні сельскай гаспадаркі на Захадзе ў Прышчэпава зрадзіліся пляны цэлага раду мерапрыемстваў, якія ён лічыў неабходнымі правесьці на Беларусі. Як першы крок з гэтых мерапрыемстваў, ён лічыў неабходным тэрмінова правесьці земляўпарадкаваньне спачатку зямель, якія былі ў часовым карыстаньні, а далей перанесьці гэтую працу ў вялікія вёскі. Прышчэпаў прызнаў і пераканаў іншых, што найлепшай і найбольш практычнай формай землякарыстаньня на Беларусі павінен быць пасёлак ня больш дваццаці гаспадарак. Хутар дапускаўся, як выключэньне ў выпадках зямельных укліньваньняў у лясы або іншыя дзяржаўныя землі на ўскраінах, прызначаныя да ўпарадкаваньня зямельных плошчаў. Надзяленьне зямлёю ў пасёлках праводзілася ў залежнасьці ад колька-

(Заканчэньне на 4 балоне)

# Інтэрвью Прэзыдэнта БНР

(Заканчэньне)

гэтая зморанасьць ці пэсымізм. Наадварот, кажны мой новы аб'езд беларускіх эміграцыйных асяродзьдзяў як у Эўропе, гэтак і ў Амэрыцы рабіў на мяне ўражаньне, што сілы нашыя, як у сэнсе матарыяльным, гэтак і арганізацыйным і маральным усьцяж растуць, павялічваецца актыўнасьць у кажнай галіне нацыянальнай дзейнасьці. У Амэрыцы, прыкладам, некаторыя асяродзьдзі, што налічвалі толькі дзесяткі сяброў падчас майго аб'езду ў 1949-50 г. г., у часе майго другога наведваньня зьдзівілі мяне сваей колькасьцю, вырасшы да тысячы сяброў.

Чуў я з боку амэрыкнацаў такія пахвальныя водклікі, што беларуская эміграцыя дыспануе вельмі паважнымі й імпануючымі інтэлектуальнымі кадрамі, а ў сэнсе нутранай кансалідацыі сярод іншых эміграцыяў беларусы стаяць на першым месцы. Праўда, паяўляюцца і ў нас некаторыя адшчапленьні ці ізаляваныя дзікія выламы, але яны ня робяць уражаньня нейкага нутранага палітычнага разьбіцьця, а ўспрыймаюцца звонку, як нязначныя анармальнасьці, бо-ж ясна, абсалютна ідэальнага й гарманійнага грамадзянства ня існуе ў сьвеце. У кажным выпадку кажнае нацыянальнае прадстаўніцтва іншых народаў, жадаючы навязаць супрацоўніцтва зь беларусамі, ня мае ніякіх клопатаў у выбары беларускага палітычнага цэнтру, бо, як такога, апрача ворганаў БНР, зусім ня існуе.

**6. Пытаньне: У канадзкім «Беларускім Голасе» была зацемка, што Вы ў Амэрыцы вялі перагаворы з групай Астроўскага аб згодзе й што быццам Вы паставілі немагчымыя для прыняцьця гэтай групе ўмовы. Цікава было-б даведацца, як у запраўднасьці прадстаўлялася гэтая справа?**

**Адказ:** Гэтае пытаньне аб згодзе, як ведама, заўсёды падыймалася людзьмі з групы г. зв. БЦР ад самага пачатку імі-ж распачатага г. зв. «расколу». У сур'ёзнасьць і шчырасьць намераў гэтай групы зьліквідаваць непаразумленьне я ніколі ня верыў. Уся дзейнасьць і тактыка гэтай групы не давала падставаў верыць у шчырасьць іхных жаданьняў супольнае працы. Аднак іхныя жаданьні спаткацца з мною, як прэзыдэнтам Рады БНР, дзеля абгаварэньня магчымасьцяў і спосабаў ліквідацыі гэтага непаразумленьня не спатыкалі ніколі з майго боку перашкодаў. Гэтак у 1949 годзе падчас майго побыту ў Нью Ёрку да мяне прыходзілі тры асобы ад гэтае групы, як і ў гэтым годзе была падобная гутарка з адным прадстаўніком групы Астроўскага. Мушу пры гэтым зацеміць, што ўсе гэтыя размовы мелі характар прыватна-інфармацыйны й, на вялікі жаль, я заўсёды выносіў вельмі прыкрае ўражаньне, што гэтыя людзі на столькі не здавалі сабе справы як з агульнай сытуацыі, так і з свайго собскага палажэньня, што знайсьці нейкія магчымасьці павароту хоць-бы тым нямногім яшчэ адзінкам, адсэпараваным ад нашага вызвольнага руху, пры ўсей нашай добрай волі было немагчыма. І вось і гэтыя г. зв. «перагаворы», пра якія падаваў «Беларускі Голас», былі ня чым іншым, як паўтарэньнем іх няўпынных дамаганьняў распусьціць Раду БНР, каб потым, фармуючы новую, яны маглі ўступіць у гэтую Раду. Я разумею амбіцыі гэтых людзей, якія хацелі-б нейкага ганаровага павароту да нашага агульнага вызвольнага фронту, і мы заўсёды гатовыя аблегчыць ім гэты паварот, але сьмешным было-б, каб дзеля якіхсьці 5—6 асобаў мы маглі рэарганізаваць і датарноўваць да іх цэлы свой палітычны арганізм, інакш кажучы, змушаць каля паўтары сотні радных датарноўвацца да капрысаў гэтай жменькі людзей.

**7. Пытаньне: Як Вы заглядаецеся на магчымасьці стварэньня супольнага з расейцамі фронту змаганьня з бальшавізмам, запрапанаванага амэрыканцамі?**

**Адказ:** Запраектаваны Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі супольны з расейцамі фронт змаганьня з бальшавізмам бязумоўна пры добрай волі й зразуменьні цяжкасьцяў гэтага змаганьня быў-бы карысным ня толькі ўсім паняволеным народам, а й наагул усей справе змаганьня. Відаць з гэтых меркаваньняў аб агульнай мэтазгоднасьці й выступіў Амэрыканскі Камітэт. Хачу пры гэтым падчыркнуць, што пасярэдніцтва амэрыканцаў прывесьці да згоды расейскія дэмакратычныя групы з народамі нерасейскімі, разумна разважаючы, не магло быць ня вітаным усімі нерасейскімі народамі, а ў тым ліку й намі. Клясычнай палітычнай формай для дабра кажнага народу — гэта мець як найлепшыя суседзкія й запрыязьненыя ўзаемадачыненьні. Гэтай клясычнай рэгулай і мы паслугоўваліся й будзем паслугоўвацца далей, і то ня толькі ў дачыненьні да якога-небудзь аднаго нашага суседа, але й усіх іншых. Расея зьяўляецца адным з нашых найбольшых суседаў, таму мы будзем вельмі радыя, калі мы спаткаем столькі зразуменьня з боку расейцаў, якія-б, прызнаючы належныя нам правы, прыйшлі да такога супрацоўніцтва, аснованага на ўзаемнай пашане й прызнаньні права раўнапраўнасьці й сувэрэннасьці. Справа гэтая бязумоўна ня лёгкая, калі ўзяць пад увагу ўсе дасюлешнія нашыя ўзаемадачыненьні хоць-бы з гэтымі пяціма расейскімі групамі. Мы знаходзімся пакуль што ў пачаткавай стадыі гэтых перагавораў. Мне вельмі цяжка выразна сказаць, чым гэта ўсё кончыцца. Шчасьлівымі абставінамі ў дадзеным выпадку ёсьць тое, што ў гэтых перагаворах пасярэднічаюць амэрыканцы, што дае нам надзею, што апошнія дапамогуць сьхіліць расейцаў зрачыся ад дасюлешніх іхных неабаснаваных да нас прэтэнсыяў. У кажным выпадку нашыя пазыцыі, як я зазначыў вышэй, ясныя. Мы імкнёмся да паразумленьня з усімі нашымі суседзямі, але не за ўсякую цану. Мы выказалі й будзем старацца выказваць найлепшую волю, каб запрапанаваны амэрыканцамі супольны фронт змаганьня зрэалізаваўся. Мы пераканаты, што калі гэтая добрая воля выявіцца й у расейцаў, дык такі фронт можа стварыцца. Было-б вельмі шкодным ня толькі для нас, але й для ўсей справы змаганьня з бальшавізмам, калі-б у выпадку недагаворанасьці стараліся нас падмяніць якімісь апартуністычна-ўгадовымі або фікцыйнымі беларускімі «рэпрэзэнтацыямі», ад чаго пры сьведамай злой волі мы заасэкуравацца ніякім чынам не маглі-б.

За накіроўваючым басам.
А падарожныя тымчасам
На двор да швагра заязджаюць,
Ідуць у хату, ўсіх вітаюць.
Карусь Дзівак ў сваім кажусе
Ляжаў на печы ў цёплым дусе,
Як заўжды ў вольную часіну;
Ляжаў, курыў і цыркаў сьліну
З-за белай коміны на хату;
І ён таксама рады сьвяту,
Але ніяк ня мог стрымацца,
Каб зь печы жартам не азвацца,
Абы хто ў хаце паказаўся,
І сам ён сьмехам заліваўся;
А цётка Магда ня стрывае
І Дзівака свайго палае:
— Чаго, кацьмак, там заваліўся?
Пайшоў-бы ў цээркву, памаліўся,
Зусім ты Бога адцураўся:
Пятнаццаць год як спавядаўся!
— А што папу казаць я маю?
Я печ на рай не памяняю!
— Цьфу, млын пусты! ото завала,
Бадай табе было зарвала! —
І злосна дзядзьку лае цётка,
А ён хіхікае каротка.
— Што, дзядзька, пойдзем ў цэркву можа?
— А пойдзем, голубе-нябожа!
Антось і Костусь ідуць з хаты.
Цянююць вуліцай дзяўчаты,
Шчабечуць весела, сьмяюцца,
І хлопцы дзесь перагукнуцца.
І ўсе вясёлы, ўсе рухлівы
І сьвятам заўтрашнім шчасьлівы.
А цэрква, макаўка сьвятая,
Народу поўна, блескам зьзяе.
Сярод царкоўкі плашчаніца
Стаіць між елачак зялёных.
Кабеты, дзеўкі, маладзіцы
Ідуць-плывуць да плашчаніцы
У хустках белых і чырвоных,
Набожна хрысьцяцца, ўздыхаюць
І лбом данізу прыпадаюць.
Направа сталыя мужчыны
Стаяць, разгладзіўшы маршчыны
А Чыліноў Алесь надзьмуўся,
Ў сьвятыя дзеяньні уткнуўся
І там, дзе слоў не расчытае,
На сажань голас працягае.
— Вось Чыліны як дацінаюць! —
Чытаньне людзі адзначаюць.
Народ калышыцца, хвалюе,
Бы ў цёмным віры вада тая,
І ўсё плыве, ўсё прыбывае
І ўлады сну ён больш ня чуе,
І блізак час сьвятой дзяньніцы.
„Хрыстос ўваскрос!" — з гары-званіцы
Вяшчае першы звон шчасьліва.
Народ увесь, бы ў полі ніва
Буйнымі гнецца каласамі,
Скланіўся ціха галавамі.
А пачакаўшы з поўгадзіны,
Нясуць жанкі, нясуць мужчыны
Кашы, каробкі, поўвасьміны
І ставяць ўрад на цьвінтары
Ўсе вялікодныя дары.
Маленьне бацька-поп канчае,
Ідзе з крапідлам і махае.
Заварушыліся каробкі,
Кашы, рашэты, поўвасьміны, —
Чакалі доўга той часіны
Дзямян, Шабас, Казімір, Сьцёпка.
Паперлі полем русакоўцы,
Бягуць да коней сьвержаноўцы,
Гудуць, склікаюцца, віншуюць,
Адны другіх ў галдзе ня чуюць,
І ўсе сьпяшаюцца, бягуць,
Каб рот свой скорамам заткнуць.
Антось зь Міхалам тож гатовы.
— Сьвяткуйце-ж веселы, здаровы! —
Усім дабра яны жадаюць
І за вароты выязджаюць.
А людзі ў хатах не драмалі:
Ўжо „алялюя" адсьпявалі
І за сталамі ўсёй сям'ёю
Сядзелі — цешыліс ядою.
Панукі конік не чакае,
І сам ён рысьсю запускае,
Як-бы сьпяшаецца дамоў
Замчаць сваіх гаспадароў.
А новы дзень, даўно жаданы,
Ўжо сыпле багру на курганы,
І стрэлы-косы залатыя
На ўзгоркі падаюць крутыя.
А хмаркі ў фарбах златалітых,
Ў шаўкох, агністых аксамітах,
То паасобку, то гурткамі,
То залатымі ланцужкамі,
Як-бы спыніўшысь нярухліва,
Усьмешкі кідаюць шчасьліва, —
І ім хацелася, відаць,
Сьвяты Вялікаднік вітаць.
— Ну, едуць, едуць! — Алесь з хаты
Бяжыць да дзядзькі і да таты,
І дзеці кінуліс к парогу.
— Ну, вось і дома, дзякуй Богу!
Прышлі у хату, ўсіх цалуюць,
Зь сьвятым Вялікаднем віншуюць;
Памыліс борзьдзенька, садзяцца,
Бо час даўно ім разгаўляцца.
Абрусам белым стол накрыты,
Ўсё мае выгляд самавіты;
Мужчыны добры і прыветны,
Ніякай цені незаметна.
На бэльку кінуў бацька вочы,
Бярэ кантычку і гартае,
„Вэсолы нам дзісь дзень" шукае.
Хоць сьпевы слухаць неахвочы,
Але трымаюць дзеці згоду,
Бо ўжо вялось так год ад году.
„Вэсолы" ў „ксёнжцы" дзесь прапалі,
Насілу ўдвух іх адшукалі
І раптам дружна зацягнулі,
Як-бы іх пугай сьцябанулі;
І маці голас далучае
І так танютка вырабляе,
А гаспадар ўсё болей з баса
Утне такога выкрутаса,
Аж сам падзівіцца сабе,
І стане горача табе.
Антось бярэ больш танкавата
Й не адстае ніяк ад брата,
А хлопцы толькі усьміхнуцца,
Але сядзяць, не зварухнуцца.
К канцу падходзіць „алялюя",
Ў камору маці тут тралюе,
Нясе прынадную бутэльку.
Кантычка зноў ідзе на бэльку.
Відэльцы дружна разьбіраюць
І гуртам яйкі ачышчаюць,
І па кусочку іх бяруць,
Крыху падсольваюць, ядуць.
Вось бацька чарку налівае
І вочы ўгору падымае.
— Дай, Божа, за год дачакаць
Здаровым, вясёлым, жывым
І новы Вялікдзень таксама спаткаць
У добрым здаровейку ўсім,
Каб гора і смутку ня зналі.
— Дай Божа! — разам адказалі.
І пайшла чарка з рук у рукі,
Пілі ўсе гладка, бяз прынукі;
Малым папробаваць далі,
Каб весялейшыя былі.
А на стале тым — рай ды годзе,
Таго ня знойдзеш і ў „кампродзе":
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зьверху, сакаўная,
Як-бы агонь у ёй палае,
А ніз бялюткі, паркалёвы;
Кілбасы-скруткі, як падковы,
Між сьцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсьвінак,
Чысьцюткі, сьвежы і румяны,
Як-бы паніч той падзіманы.
Муштарда, хрэн — адно дзяржыся,
У рот паложыш — сьцеражыся!
А пірагі, як сонца, зьзялі,
І ў роце бабкі раставалі.
Із смакам елі і багата —
На тое-ж даў Бог людзям сьвята.

(Далей будзе)

# Дык дзе-ж той „карэнь зла"?

**(Да дыскусыі аб новай эміграцыі ў ЗША)**

Спадар Ст. Крушыніч можа быць задаволены, бо апрача шматлікіх лістоў у рэдакцыю «Бацькаўшчыны», што выражалі абурэньне з АГУЛЬНАГА й крыўднага закіду ў МАТАРЫЯЛІЗЬМЕ беларускай эміграцыі ў ЗША, надыйшоў урэшце й ліст ад аднаго «беларускага грамадзка-палітычнага дзеяча ў ЗША», як падае рэдакцыя, які «глыбака праналізаваў некаторыя мамэнты з жыцьця й дзейнасьці новай беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, прыйшоўшы ў васноўным да таго-ж самага сумнага высnaву, што й сп. Ст. Крушыніч».

Вельмі прыемна даведацца, што «сумныя высновы» робіць не адзін сп. Ст. Крушыніч, але й «дзеячы» з Амэрыкі, шкада толькі, што паважаны дзеяч не адважыўся чамусьці падпісаць свой «аналіз», калі ня собскім прозьвішчам, то, прынамсі, хоць-бы псэўдонімам або ініцыялямі, бо нам давядзецца на гэтым месцы выказваць якраз нягрунтоўнасьць ягоных «нагляданьняў» і таму неяк няёмка апэраваць увесь час азначэньнем тыпу «аўтар пісьма, што глыбака праналізаваў» і г. д.

Дзеля гэтага, хай мне грэшнаму Г. Нямізе, шаноўны аўтар даруе, калі ў далейшым мы дазволім сабе тытулаваць яго проста кароткім альгебраічным сымбалем «Х» (іншай-жа рады няма), а гэта нікога абразіць ня можа, хоць мо' містар Х і іншай думкі, бо калі ён пачынаў адкрываць «не адну горкую праўду» (сэнтэнцыя рэдакцыі) ў сувязі із артыкулам аб тараканох і нашым адказам на гэта, то меў гонар ахрысьціць нас усё-ж «адным з тараканоў» («Бацькаўшчына» № 7-8), хоць пад гэтым адказам і быў наш подпіс — Г. Няміга, але Бог із ім — гэта праўдападобна адно із ягоных «глыбокіх» нагляданьняў, а кажны рэчы «бачыць пасвойму», як прызнаўся сам містар Х.

Бліжэй аднак да справы. Дзе ўсё-ж такі заўважыў той «карэнь зла» паважаны Сп. Х.? Дзе тая «горкая праўда»? Што нам раіць рабіць Сп. Х., каб гэны непатрэбны «карэнь» вырваць?

Што ў Эўропе пераацэньваюць нашыя тут у ЗША мажлівасьці, што пагоні за далярам «спэцыяльна не наглядаецца», што шмат хто адносіцца да сваіх абавязкаў салідна — аб гэтым было і ў нашым адказе Сп. Ст. Крушынічу. Праўда, мы неяк не заўважылі, што тут у ЗША хаджэньне «ў ваднэй кашулі» ад чырвеня да кастрычніка залежыць ад таго, «каму дазваляе на гэта сацыяльнае становішча» (!), або, што ў «работніцкім стане» сп-ру Х. дастаткова карыстацца толькі «некамплектным касьцюмам» пры чыстым тыднёвым заробку 62 даляры («сацыяльнае становішча», здаецца, дастатковае, каб набыць марынарку й нагавіцы, хіба што толькі «стан» не адпаведні).

Спадар Х. сьцьвярджае, што прычына «сучаснага сумнага стану» НЕ Ў ПАГОНІ ЗА ДАЛЯРАМ» і правільна сьцьвярджае, аднак выснаў робіць дзіўны — «зацемка пра, 'тараканоў у саладусе' ПРАВІЛЬНАЯ», бо «бязумоўна кажны працуючы мае магчымасьць заплаціць належныя ад яго складкі». Слушна — можа, але-ж ня гэта закідаў нам сп. Ст. Крушыніч, які бачыў усё зло менавіта ўва ЎСЕАГУЛЬНАЙ пагоні за далярам! Справа тут зусім ня ў складках, спадару Х., а ў тэй нацыянальнай працы, якую вядзе ці не вядзе беларуская эміграцыя ў ЗША. Можна аплаціць усе складкі наперад, зрабіць мільён нагляданьняў, прыдбаць аўта, колькі поўных касьцюмаў, узяць шлюб у самога біскупа беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы і ў палец ня стукнуць, каб дапамагчы справе, або, маючы нагоду выявіць усе свае пляны й прапановы, як выбранаму ў рэзалюцыйную камісію на Кангрэсе Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, бязь ніякага папярэджаньня, проста не зьявіцца на другі дзень працы Кангрэсу, а гэта-ж факт, Сп-ру Х.! Чаму ён выпаў з вашых нагляданьняў?

Да рэчы крыху аб гэных славутых шлюбах. Хіба шаноўны сп. Х. яшчэ не забыўся, што ў той час, калі жаніўся сп. К., яшчэ ня было сваей царквы, а ў дачыненьні да спадарства Р., то, хоць свая царква й была, але яна яшчэ ня была залегалізаванай і таму шлюбу не магла даць. Што-ж тады аставалася рабіць успомненым асобам, каб не карыстацца паслугамі іншанацыянальнай царквы?, як вы раіце? Жыць проста бяз шлюбу? Ад якога гэта часу, з рэлігійнага гледзішча, шлюбы ў іншанацыянальных сьвятынях, але хрысьціянскіх, сталіся «трэфнымі»? Што тады маюць рабіць, паводле вас, беларусы-каталікі, якія ня маюць на эміграцыі сваіх сьвятыняў і нацыянальнага духавенства? Ня ехаць-жа ім усім і адусюль у Рым да кс. Татарыновіча або ў Лёндан да кс. Сіповіча! Хіба-ж і сам паважаны сп. Х. свой собскі шлюб ня лічыць «трэфным», хоць ён, праўдападобна, адбываўся і ў не беларускай царкве, якой тады яшчэ ня было?

Спадар Х. дзівіцца й абураецца за тое, што «палітычныя эмігранты, як мага хутчэй стараюцца атрымаць амэрыканскае грамадзянства», а ня імкнуцца да стварэньня свайго грамадзянства. Адно другому, паважаны спадару, на наш пагляд не перашкаджае, а наадварот — дапамагае. Мы не павінны абмяжоўвацца выключна сваім вузкім панадворачкам. Чым больш будзе з нашага асяродзьдзя грамадзянаў ЗША, якія ня будуць забывацца пра вызваленьне нашай Радзімы, тым будзе лепш. Голас грамадзяніна Амэрыкі чутчэй дойдзе да заканадаўчых і выканаўчых органаў, чым голас звычайнага назіральніка, рэзыдэнта, «форэйнара». З гэтым голасам, але разумным, больш будуць лічыцца й рэспэктаваць яго. Прыкладам гэтага могуць служыць палякі ці італьянцы, якія і стварылі сваё собскае грамадзянства і маюць шмат выдатных людзей у вагульным жыцьці ЗША, як кангрэсмэнаў, сэнатараў, судзьдзяў, мэраў гарадоў (мэрам, прыкладам, найвялікшага гораду сьвету — Нью Ёрку ёсьць італьянец Імпэллітэры). Добра калі ўдасца хутка вярнуцца на Бацькаўшчыну, тады можна й пачакаць, а калі справа зацягнецца, а гэта мачыма, што тагды? Ужо й цяпер мы адчуваем вялікі недахоп таго, што іншыя народы патрапілі праціснуцца ўсюды, а нашых людзей няма, а далей будзе яшчэ горш.

Можна й трэба быць добрым грамадзянінам Амэрыкі й адначасна патрыётам сваей беларускай справы, не перастаючы быць палітычным выгнанцам, хіба цалкам асыміляваўца й забыцца пра ўсё. Каб гэтага аднак ня здарылася, трэба й падумаць пра замацаваньне й стварэньне нашай беларускай грамадзкасьці ў ЗША.

З усіх нагляданьняў сп-ра Х. толькі гэтая адна думка й мае сваю рацыю, аднак яна абмяжоўваецца выключна да голага сьцьверджаньня самога факту, што беларускай грамадзкасьці, як сталага й трывалага фактару, яшчэ няма. Ягоны «глыбокі аналіз» якраз і не падае, дзе гнезьдзіцца гэны «карэнь зла». Зробім тагды намаганьне адшукаць яго.

Ня будзем паўтараць нудных довадаў, што некаторая, даволі знаная колькасьць нашых суродзічаў, як толькі вырвалася ў вольны сьвет, то вельмі хутка забылася пра сваю місыю й гэтае сумнае зьявішча ніхто з нас ніколі не апраўдаваў і ня будзе апраўдаваць, але мы ня можам яго падаваць, як нешта ўсеагульнае. Гэтага не патрапілі давесьці ні сп. Ст. Крушыніч, ні, тымбольш, спадар Х.

Нам здаецца, што амаль усё зло карэніцца ў неправідловым падыходзе да ўсей арганізацыйнай працы тут у ЗША ужо ад самага пачатку зьяўленьня сюды беларускай эміграцыі. Падыход гэты быў і ёсьць вельмі павярхоўным. На пачатку было толькі адно імкненьне: сьцягнуць сюды, як мага больш, а пазьней усё само ўстаткуецца. Вініць у гэтым нашых піянэраў нельга. Маленькая іх жменька ледзь магла й з гэтым справіцца. Але што мы наглядаем далей? Перасяленьне у васнаўным закончылася й дапасаваньне да новых умоваў гэтых перасяленцаў таксама сяк-так адбылося, а нашыя арганізацыі, а перадусім найважнейшая зь іх — БАЗА, жывуць адным толькі ад часу да часу ладжаньнем самых неабходных імпрэзаў, сухой справаздачай праз год аб сваей дзейнасьці ці бязьдзейнасьці, ды выцісканьнем мізэрных складак, якіх не хапае часамі на аплату канцылярскіх выдаткаў ды зусім неадпаведнага памешканьня г. зв. «Беларускай хаткі». Гэта ў Нью-Ёрку, бо ў Кліўлендзе справа выглядае крышку лепш.

Трэба ўрэшце зразумець, што пры падобнай сыстэме далёка заехаць нельга ды й нельга таксама вымагаць ад некага, каб ён, будучы старшынёй БАЗА, пасьля 9-ці гадзіннай заробкавай працы на фабрыцы, стварыў нейкі цуд. А сваё грамадзтва, кажам мы, тварыць трэба, ой як трэба! Як і дзе яно можа вытварыцца, калі гэныя «паасобныя атамы», як выразіўся сп. Х., ня маюць сталага прытулку, каб у вольную часіну сыйсьціся пагутарыць, прагледзіць свае газэты, паслухаць радыё, беларускія грамафонныя пліткі, выпіць урэшце шклянку піва? А моладзь? Яна бегае па чужынецкіх клюбах, бо й паскакаць-жа трэба. А дзеці? Вучацца «сьпікаць» (гэта добра) ды бегаць па завугольлях, а пра родную мову забываюцца. Пры гэткім стане праз колькі гадоў яны будуць чужымі ў сваіх бацькоў!

Каб знайсьці выйсьце з гэтага тупіка, неабходна, каб Галоўная Управа БАЗА ў як найхутчэйшым часе зрабіла спробу перагляду пляну й праграмы сваей дзейнасьці з такім разьлікам, каб у кажным большым асяродку асяленьня беларусаў, як Нью-Ёрку, Кліўленд, Чыкаго, былі, калі не свае Народныя Дамы, то прынамсі адпаведныя сьвятліцы, дзе-б канцэнтравалася ўсё беларускае культурнае й грамадзка-палітычнае жыцьцё, пры беларускіх царкоўных прыходах (там, дзе яны ёсьць) або пры сьвятліцах неабходна арганізаваць нядзельныя школы дзеля школьнай моладзі з вывучэньнем роднай мовы, гісторыі, народных песьняў і скокаў. Калі гэтага не зрабіць сяньня, то заўтра ўжо будзе позна, — падрастаючая наша моладзь будзе страчаная! Нам могуць запярэчыць, што гэта мроі, хто будзе рабіць усё гэта? А дзе-ж дзелася нашая старэйшая моладзь, якая вельмі часта швэндаецца бязмэтна ды сумуе: «Куды тут пайсьці, ці паехаць», «няма чаго рабіць» і пад., а дзе-ж нашыя студэнты, арганізацыя «Маладняк»?

У Нью-Ёрку, як у галоўным асяродку, Галоўная Управа БАЗА павінна зрабіць усё магчымае, каб мець свой собскі «Беларускі Народны Дом», дзеля чаго патрэбна зьвярнуцца да ўсіх беларусаў у ЗША за дапамогай праз куплю адпаведных акцыяў, так рабілі й робяць усе нацыянальнасьці. Пры разумнай пастаноўцы справы гэткі Дом праз нейкі час сам акупіцца, ды будзе яшчэ даваць даход праз вынаймо залі на розныя забавы, банкеты, сходы; адзін толькі бар можа даць добры даход (Польскі Народны Дом, побач зь якім нам давялося жыць, утрымоўваецца выключна з абаротаў бару, не гаворучы ўжо пра рэстаран ды вынаймо заляў).

Патрэбы існаваньня гэткага Народнага Дому, ня толькі дзеля ньюёркаўцаў, хіба даводзіць ня трэба. Тут канцэнтравалася-б усё беларускае жыцьцё. Неабходна гэтаксама падумаць і пра закладаньне сваіх собскіх вытворчых ды гандлёвых суполак і знайсьці сродкі на ўтрыманьне колькіх платных адзінак Галоўнай Управы. Толькі пры гэткім стаўленьні справы можна будзе гутарыць аб «стварэньні моцнай і трывалай беларускай грамадзкасьці» ў ЗША. Да гэтага неабходна шчыра прылажыцца, але толькі не адзінкам, а па магчымасьці ўсім.

Гэтымі заўвагамі, пакідаючы пакуль што цэлы шэраг іншых справаў, як прэса й выдавецтвы, на пазьнейшае абмеркаваньне (нельга ў вадным газэтным артыкуле ахапіць усё) мы тымчасам і абмяжуемся.

Паколькі-ж падобная дыскусыя ўзьнікла, то хацелася-б чуць думкі ня толькі «амэрыканцаў», але й іншых суродзічаў зь іншых краінаў, бо тое, што тут гаварылася пра беларускія ўзаемадачыненьні ў ЗША, у тэй ці іншай меры адносіцца й да Канады, Аргентыны ці Аўстраліі.

**Г. Няміга**

# Пад знакам нацыянальнага ўздыму

(Заканчэньне)

адным з найвалікшых нашых эміграцыйных дасягненьняў у галіне вонкавае дзейнасьці нашае эміграцыі й заманіфэставаньнем глыбокае прыязьні Бэлгіі да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. З асаблівым задаваленьнем трэба адцеміць, што ў Бэлгіі, здабыты ўжо намі вялікі палітычны капітал, у чым вялізарная заслуга нашай студэнцкай моладзі, якая сваімі ўзорнымі паводзінамі, бязьмежнай аданасьцю роднай справе й ахвярнай працай змагла зьвярнуць на сябе ня толькі ўвагу, але й заваяваць шчырыя сымпатыі з боку бэльгійскага грамадзянства, навуковых сфэраў і адказных дзейнікаў бэльгійскага ўраду. Гаворачы пра дзейнасьць моладзі й ейны сукцэс, нельга абмінуць таксама не малых арганізацыйных й прапагандовых посьпехаў нашае моладзі на паўночна-амэрыканскім кантынэньце, у першую чаргу ў Кліўлендзе й Вініпэгу.

Ня гледзячы на тое, што рады нашае эміграцыі ў Ангельшчыне зь вялікай для нас шкодай на працягу апошніх гадоў значна парадзелі ў выніку выэміграваньня адтуль ладнай часткі найбольш актыўнага элемэнту, і там ня толькі ня спыняецца арганізацыйная праца, але выказвае й некаторыя сымптомы росту. Да апошніх пазытыўных дасягненьняў ў Эўропе трэба таксама аднесьці паўстаньне беларускай эміграцыйнай калёніі ў Гішпаніі.

І так ува ўсіх галінах нашай нацыянальнай дзейнасьці зазначылася значнае ажыўленьне. Больш унармавалася беларуская палітычная дзейнасьць, грамадзкае жыцьцё прыймае больш сталыя арганізацыйныя формы, больш сыстэматычна праводзіцца прапаганда навонкі, акрэпла Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква шляхам арганізацыі раду новых царкоўных прыходаў, ажывілася й пашырылася выдавецкая справа й прэса. Заўважваецца, асабліва ў заакіянскіх краінах, зразуменьне канечнай патрэбы арганізаваньня матарыяльнае дапамогі для тых, найбольш лёсам пакрыўджаных нашых суродзічаў, якім, ня зь іхнае віны, дзьверы да эміграцыі аказаліся зачыненымі.

Усё гэта зьяўляецца вымоўнай і незапярэчнай азнакай, што нашая новая эміграцыя, уладзіўшыся й асталяваўшыся ў новых краінах асяленьня, пачынае із сьвежым энтузыязмам і глыбокім зразуменьнем сваей нацыянальнай місыі, разбудоўваць сваё нацыянальна-арганізацыйнае жыцьцё, ажыўляць сваю нацыянальна-вызвольную дзейнасьць. Што раз большае напружаньне ў міжнародным палажэньні й насьпяваньне няўхільнага збройнага канфлікту з бальшавізмам родзіць зразуменьне вялікай гістарычнай адказнасьці за будучы лёс беларускага народу. Здабытыя дагэтуль пазыцыі ў нашай нацыянальнай працы й што раз большае зацікаўленьне намі адказных палітычных дзейнікаў і заходніх грамадзянстваў, праўдзівыя сымпатыі й глыбокія спачуваньні зь іхнага боку над нашым трагічным сяньняшнім лёсам, выклікаюць у нашай эміграцыйнай грамадзкасьці ўпэўненасьць, што нашая дасюлешняя дзейнасьць ужо цяпер дала багатыя плады.

Гэта сьветчыць, што нашая эміграцыя зьяўляецца ў сваей аснаўной масе маральна здаровай, творчай, жыцьцяздольнай і нацыянальна дасьпелай. Мы далёкія ад пападаньня ў другую скрайнасьць, каб захопліваўца, што ў нас усё ўжо добра й больш нічога жадаць з нашай эміграцыі ня трэба. Наадварот яшчэ ёсьць у нас вельмі й вельмі шмат недахопаў, гэтае ажыўленьне нацыянальнай працы зазначылася толькі ў невялікай частцы нашае эміграцыйнае грамадзкасьці, тады, калі бальшыня ейная гразьне й сяньня ў грубым эгаізьме й будуе свой сьветагляд выключна на часовых матарыяльных выгадах. Тым ня менш аднак факт астаецца фактам, што ўсе перадумовы для далейшага разгарненьня сярод нас нацыянальна-вызвольнае працы ў нас ёсьць. Астаецца толькі нашай кіруючай інтэлігенцыі ўсе гэтыя магчымасьці належна выкарыстаць і надаць нашай нацыянальнай працы адпаведны арганізацыйны кірунак.

І гэта зьяўляецца найважнейшым. Бо калі мы паасобныя нацыянальныя ўзрухі нашай эміграцыі, што ў бальшыні выпадкаў узьнікаюць стыхійна й адзін ад другога незалежна, пакінем самым сабе, дык гэты энтузыязм, не знайшоўшы належнага накіраваньня, можа хутка астыць, пасьля чаго наступіць узноў пэрыяд расчараваньняў, зьняверанасьці й абыякавасьці. Трэба тады надаць нашай дзейнасьці сталыя й моцныя арганізацыйныя формы, весьці яе плянава й сыстэматычна, імкнучыся да здабыцьця вялікіх дасягненьняў, не занядбоўваць і працы дробнай, штодзеннай, хаця не такой эфэктоўнай, але ня менш важнай. Побач із высокімі ўзьлётамі й разьвязваньнем вялікіх праблемаў, павінна раўналежна весьціся праца мураўіная, павольная, грунтоўная й упорыстая. Ніводная дзялянка палітычнай, грамадзкай ці культурнай дзейнасьці не павінна выходзіць з поля нашае ўвагі, а кажны з нас, у меру сваіх здольнасьцяў, магчымасьцяў і патрэбаў, мусіць быць пастаўлены на сваім месцы, на месцы, на якім ён будзе найбольш карысным. Патрэба тады, — яшчэ раз паўтараем — пружыністае, гібкае, але моцнае й мэтазгоднае арганізаванасьці й нутранага здысцыплінаваньня, патрэба сыстэматычнасьці й да найменшых дэталяў распрацаванае пляновасьці.

Вось гэта, — на нашу думку — зьяўляецца сяньня найважнейшым заданьнем нашага эміграцыйнага кіраўніцтва. Дык да энэргічнага выконваньня гэтых вялікіх нашых абавязкаў мы гэтта й заклікаем!

**Язэп Каранеўскі**

# Сялянскае землякарыстаньне на Беларусі

(Заканчэньне)

сьці душ у сям'і, аднак ня менш пяці гэктараў на гаспадарку зь сялібай да гэктара вялічынёю.

Прачуўшы пра надходзячыя работы па ўпарадкаваньню зямель, будучыя пасялкоўцы яшчэ загадзя неафіцыйна правялі падрыхтоўчую працу. Яны абмеркавалі й намецілі пункты для сялібаў пасёлку. Усё было прадугледжана й прадумана, бо ад добрага месца паселішча ў значнай ступені залежыў і далейшы пасьпяховы развой гаспадаркі і лад сярод пасялкоўцаў. Для паселішчаў падбіраліся мясьціны паблізу рэчкі, руцявіны, навет проста балоцца. Прадбачыўся таксама зручны выхад жывёлы з пасёлку, блізкі выезд на вялікую дарогу. Хацелася, каб пасёлак быў пабудаваны ў зацішку пры ляску з добрымі мясьцінамі для садоў і гародаў. У доўгія зімовыя вечары зьбіраліся людзі на гутаркі, на якіх падбіраліся склад і назовы пасёлкаў: Ліпнікі, Садкі, Каледзічы, Крутнікі, Лужкі, Дуброўкі, Арэхаўкі й іншыя. Тады яшчэ ня чуваць было пра розныя пяцігодкі, чырвоныя зоры, сонечныя канстытуцыі. Назвы даваліся простыя, натуральныя, беларускія.

Каморнікам-земляўпарадчыкам людзі дапамагалі ў рабоце шчыра й ахвотна. Як толькі былі адведзены месцы для паселішчаў і вызначаны паасобныя сялібы для гаспадарак, пасялкоўцы ліхаманна прыступалі да будаўніцтва. Пры дапамозе братоў, сватоў ды добрых суседзяў, на сялібах пасёлкаў расьлі, як грыбы пасьля дажджу, хаціны, часта безь сяней ды іншых патрэбных да жыцьця ўладжаньняў. Для жывёлы на сьпех будаваліся, калі не хлявушкі, дык хоць падпавеці, абы ня ліло зь верху. Будаўлянага матарыялу было мала, а многага зусім не хапала. Супольна, па суседзку, капалі калодзежы на некалькі гаспадарак. Новым гаспадаром абрыдла мінулае жыцьцё, няўпэўненасьць, бадзяньне па сьвеце, таму ўсе стараліся, як мага хутчэй асталявацца на сваей сялібе, на сваей зямлі, якая была нанесеная каморнікам на пляне й запісаная як асабістая собскасьць. Турботаў было шмат, бо новымі гаспадарамі былі былыя парабкі ды самая бяднейшая частка вёскі. Цяжкасьці палягалі яшчэ ў тым, што апрача абмежаванасьці сродкаў, ня было магчымасьці дастаць той ці іншай рэчы. Аднак неяк на скора пабудаваліся, абзавяліся хоць і невялічкімі конікамі, кароўкамі, авечкамі або парасём, абсеяліся, зьбіраючы, часта гарчыкамі, насеньне.

Думалася жыць, працаваць ды гадаваць на сваей ужо зямлі.

(Заканчэньне будзе)

**Васіль Будзімер**

# Камуністычныя бунты у Францыі

(Заканчэньне)

Прыезд у Парыж генэрала Рыджвэя быў толькі прэтэкстам для камуністычных выступленьняў, але прычыны іх былі значна глыбейшыя. Гэта бясспрэчна была адна із формаў рэакцыі Масквы на падпісаньне даух няпрыемных для яе дагавораў: генэральнага дагавору з Заходняй Нямеччынай і дагавору аб стварэньні эўрапэйскай арміі. Масква, імкнучыся запалохаць публічную апінію Захаду, выклікаючы ў ей ураажаньне, што Саветы зьяўляюцца заходнімі дзяржавамі «справакаванымі» да вайны, як і намагаючыся аслабіць абабоназдольнасьць заходніх грамадзянстваў, прыступіла да акцыі больш непасрэднай. Гэта паказвала-б на тое, што халодная вайна ўваходзіць у новую фазу, у якой прапагандовую дзейнасьць пятых калёнаў маюць замяніць вулічныя збройныя бунты.

Аднак апошнія падзеі ў Францыі паказалі й некаторыя мамэнты пацяшаючыя. Калі да гэтага часу францускі ўрад талераваў безадказныя антыдзяржаўныя акты бальшавіцкіх пятых калёнаў, якія ў вялікай ступені паралiжавалі нармальнае жыцьцё дзяржавы, дык у вапошні мамэнт праявіў вялікую энэргію й станоўкасьць. Урад Пінэ не паўстрымаўся перад такімі мерамі, як арышт вядучых камуністых на чале з Дуклё, заняцьце памяшчэньняў камуністычных арганізацыяў і канфіската ўсіх камуністычных актаў. Выглядае, што францускі ўрад зьмяніў сваю тактыку змаганьня з камунізмам, распачаў у дачыненьні да яго палітыку цьвёрдае рукі.

**(-іч)**

# Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны"

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:**
   Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:**
   **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:**
   Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:**
   Mr. B. Danilovich, 222 Suydam St. New Brunswick, N. J. U.S.A.
5. **У Канадзе:**
   Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:**
   Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires. Argentina.
7. **У Аўстраліі:**
   Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:**
   Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:**
   Mr. Karanieuski Marian, R. N. Z. A. F. Station Taieri. Otago. New Zeeland.

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

| | |
|---|---|
| 1. ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. Канада | 15 цэнтаў |
| 3. Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. Францыя | 40 франкаў |
| 5. Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 эгзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас: Mr. Jan Zaprudnik, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**